Каханоўскі, А. Г. Уніфікацыя і русіфікацыя як накірункі ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. / А. Г. Каханоўскі // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 20 – 26

**А. Г. Каханоўскі**

# УНІФІКАЦЫЯ І РУСІФІКАЦЫЯ ЯК НАКІРУНКІ ЎРАДАВАЙ ПАЛІТЫКІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Для беларускіх губерняў пасля падаўлення паўстання 1863 г. і да пачатку Першай сусветнай вайны было ўласціва своеасаблівае спалучэнне розных кампанентаў урадавай палітыкі, якія ўзаемна дапаўнялі адзін аднаго і вызначалі агульны накірунак, а ў канечным выніку — эфектыўнасць урадавых мерапрыемстваў. Мадэрнізацыя і ўніфікацыя як стандартныя асновы сацыяльнай сістэмы Расійскай імперыі, інтэнсіўная русіфікацыя і заўважная актывізацыя нацыянальных працэсаў стваралі ўнікальны сімбіёз на тэрыторыі беларускіх губерняў. Гэтая складаная з'ява стала вынікам пераважна супольнага ўплыву нацыянальна-канфесійнага і сацыяльна-саслоўнага фактараў урадавай палітыкі. Высвятленне канкрэтнага механізма яе фарміравання і ўплыву дазволіць адказаць на многія заблытаныя пытанні гісторыі Беларусі другой паловы XIX — пачатку XX ст., у тым ліку на такія, як фарміраванне сучаснай беларускай нацыі, станаўленне элементаў грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і інш. Актуальнасць абазначанай тэмы акрэсліваецца таксама і недастатковасцю вывучэння яе айчыннымі даследчыкамі.

**Пастаноўка праблемы.** Праблема эвалюцыі расійскай урадавай палітыкі ў беларускіх губернях не вывучалася ў айчыннай гістарыяграфіі ўсебакова і як асобная навуковая праблема. Аднак многія фрагменты яе прадстаўлены з той ці іншай ступенню паўнаты ў даследчыцкай літаратуры [2]. Пачатак распрацоўкі вызначанай праблемы быў пакладзены працамі А. І. Цвікевіча [16] і М. В. Доўнар-Запольскага [3]. Разгляду асноўных накірункаў сацыяльна-саслоўнай урадавай палітыкі ў дачыненні да дваранства і сялянства Беларусі ў другой палове XIX ст. прысвечана манаграфія С. М. Самбук [13]. Асобныя пытанні вывучэння абазначанай праблемы (характарыстыка асноўных урадавых мерапрыемстваў у дачыненні да некаторых саслоўных і этнічных груп насельніцтва — дваранства, купецтва, сялянства і інш., а таксама рэгулявання беларускага нацыянальна-культурнага і канфесійнага жыцця, развіцця прадпрымальніцтва і г. д.) знайшлі адлюстраванне ў даследаваннях П. Д. Верашчагіна [1], А. П. Жытко [5], Н. І. Палятаевай [12], В. П. Панюціча [11], З. В. Шыбекі [17], П. У. Цярашковіча [14], В. В. Яноўскай [18] і інш. У апошнія гады значную актыўнасць у вывучэнні эвалюцыі ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі праяўляюць расійскія даследчыкі. Аднак здзіўляе, што некаторыя з іх (напрыклад, М. Д. Далбілаў [4], Г. А. Камзолава [9]) пры падрыхтоўцы сваіх аб'ёмістых манаграфій абыходзяцца без выкарыстання багацейшых фондаў беларускіх архіваў і ўсебаковага разгляду беларускай гістарыяграфіі.

У дадзеным артыкуле ставіцца мэта акрэсліць суадносіны ўніфікацыі і русіфікацыі як агульных накірункаў ва ўрадавай палітыцы на тэрыторыі Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст., якія ў значнай ступені вызначылі шляхі сацыяльнай трансфармацыі беларускага грамадства на пачатковым этапе станаўлення яго як індустрыяльнага. Узнятыя ў артыкуле пытанні разглядаюцца больш у пастановачным плане, дэталізаваны аналіз праблемы

* Статья выполнена в рамках Подпрограммы научных исследований на 2011—2015 гг. «История и культура» ГПНИ «История, культура, общество и государство».

**Кохановский Александр Геннадьевич** — заведующий кафедрой истории Беларуси нового и новейшего времени Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук, доцент

патрабуе значна больш маштабнага падыходу, падрыхтоўкі беларускімі даследчыкамі шэрагу грунтоўных манаграфічных даследаванняў.

**Суадносіны ўніфікацыі і русіфікацыі як накірункаў урадавай палітыкі.** Уніфікацыя як агульны накірунак унутранай палітыкі ўрада Расійскай імперыі ўключаў фактычна ўвесь комплекс праведзеных ім мерапрыемстваў, якія закраналі практычна ўсе сферы развіцця грамадства: сацыяльна-саслоўную, эканамічную, грамадска-палітычную, нацыянальна-канфесійную, сацыяльна-культурную. Мэта рэалізацыі палітыкі ўніфікацыі — набліжэнне беларускага грамадства да агульнарасійскага «стандарту», нівеліроўка адметных рыс яго развіцця ў межах агульнаімперскай перспектывы. Палітыка нацыянальна-культурнай уніфікацыі ў Расійскай імперыі атрымала назву русіфікацыі. Яе рэалізацыя мела свае рэгіянальныя асаблівасці, пэўную дынаміку ў часе, а яе памеры і глыбіня вызначаліся наяўнасцю і ўплывам мясцовых эліт [8, с. 53]. Уніфікацыя ўспрымаецца толькі ў межах захаванай мясцовай (рэгіянальнай) разнастайнасці. Адным з асноўных інструментаў уніфікацыі выступала адукацыя, другім не менш значным — увядзенне агульнага заканадаўства. У дадзеным выпадку русіфікацыя выступала як частка палітыкі ўніфікацыі, якая закранала перш за ўсё нацыянальна-культурную і канфесійную сферы.

Некаторыя прадстаўнікі расійскага вышэйшага чыноўніцтва ў пачатку XIX ст., напрыклад М. М. Сперанскі, прапаноўвалі ў якасці пэўнага эталона для руху Расійскай імперыі па шляху мадэрнізацыі заходнія ўскраіны [8, с. 122]. Аднак у хуткім часе, асабліва пасля паўстання 1830—1831 гг., апошнія ператўварыліся з эталона для ўсёй імперыі ў крыніцу пагрозы. Мясцовыя эліты разгарнулі барацьбу супраць імперскага цэнтра не пад саслоўнымі ці лакальна-тэрытарыяльнымі лозунгамі, а за асобную нацыянальна-дзяржаўную эмансіпацыю.

Русіфікацыя як мэтанакіраваная сістэма мерапрыемстваў сфарміравалася некалькі пазней за сацыяльна-саслоўную і ў значнай ступені эканамічную сферу палітыкі ўніфікацыі. У завершаным выглядзе палітыка русіфікацыі афармілася пасля падаўлення паўстання 1863 г. У другой палове XIX — пачатку XX ст. менавіта мерапрыемствы па русіфікацыі беларускіх губерняў становяцца галоўным стрыжнем правядзення ўрадавай палітыкі. Больш таго, яе рэалізацыі ў пэўнай ступені садзейнічала разгортванне працэсаў сацыяльнай трансфармацыі грамадства ва ўмовах мадэрнізацыі, узмацненне сацыяльнай і тэрытарыяльнай мабільнасці жыхароў, пашырэнне ўрбанізацыі грамадства.

Станаўленне палітыкі русіфікацыі адбывалася паралельна з фарміраваннем рускага нацыяналізму. Этнакультурная ўніфікацыя ўспрымалася ўрадавымі коламі як неабходны элемент мадэрнізацыі краіны. Аднак некаторыя з іх прадстаўнікоў, напрыклад П. А. Валуеў, усведамлялі, што складанасць нацыянальнага, найперш польскага, пытання на заходніх ускраінах імперыі не абмяжоўвалася толькі канфесійным адрозненнем, але і рознай ступенню сталасці сацыяльных адносін, грамадзянскай супольнасці, нераўнамернасцю развіцця ў грамадска-палітычнай сферы [8, с. 150]. У беларускім грамадстве пашырэнне працэсаў мадэрнізацыі адбывалася паралельна з узмацненнем тэндэнцый, накіраваных на ўніфікацыю сацыяльна-культурных працэсаў, пашырэннем працэсаў русіфікацыі. У дадзеным выпадку тэрмін «мадэрнізацыя» ўжываецца для абазначэння шырокага працэсу пераходу ад традыцыйнага грамадства да сучаснага.

У XIX ст. еўрапейскія дзяржавы стваралі нацыі, умацоўвалі нацыянальны патрыятызм і фарміравалі аднародную ў лінгвістычных і адміністрацыйных адносінах супольнасць грамадзян. У Расійскай імперыі праводзілася русіфікацыя нярускіх народаў. Паўстанне 1863 г. стала важным этапам адліку эвалюцыі ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі, фарміравання грамадска-палітычнага руху і думкі. Пасля яго задушэння становіцца менш адчувальным уплыў польскага дэмакратычнага асяродка, які шмат у чым успрыняў ідэі тэорыі арганічнай працы. У польскім грамадстве пашырылася новая ідэалагічная і грамадская плынь, якая атрымала назву «варшаўскі пазітывізм». Яе прыхільнікі ставілі першачарговую задачу

эканамічнага развіцця Польшчы з мэтай узбагачэння нацыі. Барацьба за нацыянальнае вызваленне адкладвалася на аддаленую перспектыву.

Расійскія ўрадавыя колы і грамадская думка схіліліся ў гэты час да канцэпцыі агульнарускай нацыі, у склад якой уключылі велікаросаў, маларусаў і беларусаў. У сувязі з гэтым актуальным стаў мэтанакіраваны адрыў насельніцтва беларускіх губерняў ад гістарычнай традыцыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, настойлівая рэалізацыя ўніфікацыйных мерапрыемстваў і часам добраахвотная русіфікацыя ў межах мадэрнізацыйнай перспектывы. Невыпадковым стаў паступовы заняпад сярод адукаванага грамадства ідэй «ліцвінскага» патрыятызму і пашырэнне самаўсведамлення беларускай нацыі ў сучасным яе разуменні. Думаецца, што ў гэтым працэсе, акрамя аб’ектыўных асноў традыцыйнай культуры, светапогляду, гістарычнай спадчыны, немалаважным фактарам стала сацыяльна-этнічная інжынерыя ўрадавых колаў, накіраваная на «распалячванне» жыхароў заходніх губерняў, а таксама актыўная грамадска-культурная дзейнасць беларускай сацыялістычнай і рэвалюцыйна-дэмакратычнай моладзі, якая імкнулася адысці ад шляхецкіх традыцый палітычнай нацыі ранейшай эпохі.

**Прыярытэты рэалізацыі ўрадавай палітыкі.** Да сярэдзіны XIX ст. беларускія губерні, беларусы не разглядаліся як самастойны суб’ект урадавай палітыкі, але толькі ў сувязі з агульнай палітыкай у дачыненні да былой палітычнай нацыі (народа, шляхты) Рэчы Паспалітай. Адсутнасць уласнай незпаланізаванай эліты ўспрымалася ўрадавымі коламі як сведчанне неразвітасці высокай культуры і мовы, з якімі патрэбна было лічыцца. Магчыма, несупраціўленне фарміраванню беларускага этнасу насуперак ліцвінам (як аднаму з верагодных шляхоў этнакультурнага развіцця) з іх самабытнай гістарычнай памяццю было (побач з безумоўнымі аб’ектыўнымі этнакультурнымі фактарамі, узмоцненымі мадэрнізацыйнымі працэсамі) адным з важнейшых, але і скрытых за сумессю заканадаўчых праектаў, інструкцый і інш., сацыяльных праектаў расійскага ўрада, накіраванага на ўмацаванне стабільнасці імперыі, паскарэнне інтэграцыі ўскраін з цэнтрам. Адсюль імкненне афіцыйных колаў паглыбіць ўсведамленне, што праваслаўны — гэта рускі ці беларус, а католік — паляк. Тут не заставалася месца для ліцвіна-ўніята ці беларуса-католіка.

Выпрацоўка ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі вызначалася часам неадназначнасцю прынятых рашэнняў, наяўнасцю розных падыходаў і супярэчнасцей паміж цэнтральнымі органамі і мясцовай адміністрацыяй. Нават у перыяд і пасля паўстання 1863 г. сярод вышэйшага чыноўніцтва Расійскай імперыі сфарміраваліся два падыходы. Першы ўвасабляўся групоўкай, якая атрымала сярод сучаснікаў назву «руская партыя» (віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў, ваенны міністр Д. А. Мілюцін, міністр дзяржаўнай маёмасці А. А. Зялёны і інш.). Другі — «партыяй касмапалітаў» (міністр унутраных спраў П. А. Валуеў, вялікі князь Канстанцін Мікалаевіч, міністр народнай асветы А. В. Галаўнін, кіраўнік жандармаў князь В. А. Далгарукаў, пецярбургскі генерал-губернатар князь А. А. Сувораў і інш.) [9, с. 340]. Для іх былі характэрнымі розныя падыходы да выпрацоўкі метадаў інтэграцыі беларускіх і літоўскіх губерняў з велікарускім цэнтрам. Віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў ставіў пад сумненне магчымасць сталага сацыяльнага супрацоўніцтва ўрадавых органаў з мясцовым польскім і каталіцкім дваранствам, рабіў стаўку на праваслаўнае сялянства і ў іх інтарэсах праводзіў аграрныя мерапрыемствы. Міністр унутраных спраў П. А. Валуеў, наадварот, зыходзіў з саслоўнага прынцыпу фарміравання ўнутранай палітыкі, лічыў, што беларускае і літоўскае зпаланізаванае дваранства павінна разглядацца як сацыяльная апора самадзяржаўя. Аднак для магчымасці ўплыву ўрада на мясцовае дваранства П. А. Валуеў прапаноўваў выкарыстоўваць праваслаўнае сялянства ў якасці стрымліваючага фактару, умацоўваючы супярэчнасці іх з памешчыкамі-католікамі [9, с. 340].

Практычная рэалізацыя ўрадавых мерапрыемстваў залежала ад дзейнасці мясцовых адміністрацый, часам ад іх уласнага бачання вызначаных прыярытэтаў. Напрыклад, віленскі

генерал-губернатар А. Л. Патапаў (час кіравання ў Вільні – 1868—1874 гг.), не маючы асаблівых сімпатый да палякаў, тым не менш не быў актыўным прыхільнікам прыцясненняў прадстаўнікоў вышэйшага саслоўя каталіцкага веравызнання. Як правіла, у дзейнасці адміністрацый віленскіх генерал-губернатараў пасля перыядаў больш жорсткага курса на русіфікацыю наступаў час спроб нерашучай лібералізацыі. Прыхільнікамі метадаў М. М. Мураўёва праявілі сябе генерал-губернатары І. С. Каханаў (час кіравання ў Вільні – 1884—1893 гг.) і В. Н. Троцкі (1897–1901 гг.). За ўсталяванне пэўнага паразумення з польскім адукаваным грамадствам выказваўся П. П. Альбядзінскі (1874—1880 гг.).

Саслоўная арганізацыя складала аснову сацыяльнай сістэмы Расійскай імперыі ў XIX — пачатку XX ст. Гэта быў асноўны прыярытэт для захавання стабільнасці пануючага рэжыму і лаяльнасці нярускіх падданых у дачыненні да дынастыі. Саслоўны прынцып з'яўляўся адным з тых, што дазваляў уратаваць цэласнасць шматнацыянальнай імперыі і вызначаў сацыяльныя сувязі [7, с. 120]. Гэтую функцыю саслоўных інстытутаў не магла замяніць у поўнай меры нацыянальная ці канфесійная ідэалогія. Прыярытэт дынастычных і саслоўных прынцыпаў над этнічнымі і моўнымі быў агульным для Расійскай імперыі і іншых шматнацыянальных дзяржаў [7, с. 121]. Беларускія землі, як і іншыя заходнія вобласці, да часу ўваходжання ў склад Расійскай імперыі ў канцы XVIII ст. мелі адметную і больш развітую саслоўна-карпаратыўную арганізацыю, чым цэнтральныя губерні [10, с. 46]. На працягу большай часткі XIX ст. расійскі ўрад імкнуўся ўніфікаваць, наблізіць сацыяльную арганізацыю беларускага грамадства да стандарту велікарускіх губерняў.

Разбурэнню ранейшых саслоўных інстытутаў, пашырэнню ўніфікацыйных працэсаў і ў канечным выніку пераходу да адкрытай грамадскай структуры, якая б не стрымлівала сацыяльную мабільнасць насельніцтва, перашкаджалі створаныя на працягу стагоддзяў традыцыі ў сацыяльна-псіхалагічнай сферы, маральныя каштоўнасці. Апошнія былі падмацаваны настальгічнымі настроямі шляхты па страчанай дзяржаўнасці Рэчы Паспалітай, разгортваннем нацыянальна-вызваленчай барацьбы пад лозунгамі аднаўлення былых вольнасцей і краіны. Шляхта ў Расійскай імперыі захавала свае эканамічныя і сацыяльныя пазіцыі, сярэдняя частка яе нават умацавала іх. Але шляхта да падзелаў Рэчы Паспалітай, у параўнанні з дваранствам іншых краін і народаў Цэнтральнай і Паўднёва-Усходняй Еўропы, валодала значна большымі палітычнымі правамі і мела адпаведныя традыцыі. Атрымаўшы меншыя магчымасці для выяўлення сацыяльнай актыўнасці, шляхта праявіла цікавасць да нацыянальна-вызваленчага руху. Гэты фактар аказваў значны ўплыў на трансфармацыю шляхты ў дваранскае саслоўе Расійскай імперыі. Нават працэсы маргіналізацыі шляхты, пераводу часткі яе ў падатковыя саслоўі закранулі ў першую чаргу сацыяльна-эканамічную сферу, маёмаснае і прававое становішча.

Нівеліроўка саслоўных межаў адбывалася перш за ўсё праз гандлёва-прамысловае расійскае заканадаўства, якое ў другой палове XIX — пачатку XX ст. насіла шмат у чым усесаслоўны характар [6, с. 26]. Паступовае адміранне саслоўнай сістэмы пашырала прастору інтэграцыйным працэсам сацыяльнай сістэмы беларускіх губерняў да стандарту цэнтральных расійскіх. У той жа час у Беларусі ранейшыя саслоўныя групы (часоў Рэчы Паспалітай) спрабавалі выкарыстаць і развіваць свае трывалыя традыцыі грамадскай актыўнасці ў межах традыцыйнай саслоўнай арганізацыі Расійскай імперыі.

Для беларускіх, як і фактычна іншых заходніх губерняў, эвалюцыя сацыяльнай сістэмы ўрадам Расійскай імперыі накіроўвалася па аналогіі з велікарускім цэнтрам, аднак дадзены працэс, паскораны пасля паўстання 1863 г., не быў завершаны да канца. Гэта было звязана з апазіцыяй на ўзроўні грамадскай свядомасці, менталітэта мясцовых эліт, а нярэдка і асобных катэгорый гарадскога і нават сельскага насельніцтва. У немалой ступені паўплываў пачатак капіталістычнай мадэрнізацыі ў Расійскай імперыі, які разгортваўся як вестэрнізацыя. Беларускія губерні, якія мелі аналагічны вопыт развіцця сацыяльных працэсаў у складзе Рэчы

Паспалітай, дастаткова блізкія да заходне- і цэнтральнаеўрапейскіх краін, былі параўнальна лепш падрыхтаваны да ўспрыняцця станаўлення буржуазных адносін і правядзення рэформ. Змяшэнне мясцовых традыцыйных пачаткаў з уніфікацыйнымі мерапрыемствамі расійскага ўрада вызначыла спецыфічныя рысы, якімі характарызавалася эвалюцыя мадэрнізацыйных працэсаў на тэрыторыі Беларусі. У некаторым сэнсе можна сцвярджаць, што сацыяльнае развіццё Беларусі ў XIX ст. вызначалася ў значнай ступені асаблівасцямі, параўнальна з цэнтральнымі губернямі імперыі. У пачатку XX ст. пад уплывам нівеліруючага ўздзеяння мадэрнізацыйных працэсаў гэта тэндэнцыя стала менш актуальнай.

Буржуазныя рэформы 60—70-х гг. XIX ст. практычна ігнаравалі спецыфічныя рысы беларускіх губерняў у сацыяльна-эканамічнай сферы. Фактычна толькі праз чыншавую рэформу 1886 г., землеўладкаванне ў 1882 г. вольных людзей, у 1893 г. — праваслаўных арандатараў і іншых урад звярнуўся да неабходнасці ўлічваць адметныя рысы сацыяльнай структуры і эканамічных адносін розных груп насельніцтва на тэрыторыі беларускіх губерняў. У рэалізацыі буржуазных рэформ 60—70-х гг. XIX ст., за выключэннем адмены прыгоннага права, адсутнічаў выразна саслоўны пачатак. Кожнае з чатырох саслоўяў не ўяўляла сабой кансалідаваную групу, а падзялялася на асобныя разрады, якія былі дастаткова рознымі па прававому становішчу. Толькі ў дачыненні да аднаго сялянства ўрадавая палітыка ў другой палове XIX ст. была накіравана на яго кансалідацыю як адзінага саслоўя.

Узмацненне русіфікацыі пасля падаўлення паўстання 1863 г. стала штуршком для пошукаў самаідэнтыфікацыі сярод інтэлігенцыі Беларусі. Нават мясцовыя праваслаўныя чыноўнікі, сутыкнуўшыся з калегамі, прыбыўшымі з велікарускіх губерняў, успрымалі сваю этнічную адметнасць, у тым ліку праз часам нядобразычлівае стаўленне да прыезджых [15, с. 134].

На мяжы XIX—XX стст. вызначэнне этнічнай прыналежнасці беларускім сялянствам ускладнялася неабходнасцю засваення рускай і польскай моў, з якімі звязвалася магчымасць сацыяльнага поспеху. Для многіх сялян уяўлялася бясспрэчнай перавага рускай і польскай культур над іх вясковай культурай і простай мовай. Гэта часам выклікала насмешлівае стаўленне да ўсяго свайго вясковага, асабліва сярод тых, хто змог узняцца па сацыяльнай лесвіцы. У той жа час дзеячы беларускага нацыянальнага руху апелявалі да этнічнай культуры, мовы простага народа як важнейшых каштоўнасцей, абгрунтоўвалі неабходнасць адраджэння іх высокага статусу. Нацыянальная агітацыя ў пачатку XX ст. дынамічна развівалася, аднак ускладнялася недастатковай развітасцю сродкаў камунікацыі.

У перыяд пасля вызвалення сялян ад прыгону і рэформ 1860—1870-х гг. павялічыліся памеры добраахвотнай спантаннай русіфікацыі. Чыгуначнае будаўніцтва, развіццё прамысловасці і ўнутранага рынку, удасканаленне камунікацый, пашырэнне перспектыў прафесійнага росту і сацыяльнай мабільнасці стварылі новыя перавагі не толькі для рускіх, але і для прадстаўнікоў іншых народаў. Эмансіпацыя сялянства, індустрыялізацыя і ўрбанізацыя садзейнічалі фарміраванню сярэдняга слоя ў горадзе і вёсцы, які, у сваю чаргу, стаў сацыяльнай базай абуджэння і пашырэння нацыянальных рухаў [10, с. 43]. Для этнічных ускраін (у тым ліку Беларусі) былі характэрнымі значныя тэмпы разгортвання мадэрнізацыі, якая аб'ектыўна садзейнічала абуджэнню нацыянальнага пытання і фарміраванню сучасных нацый.

Пасля паўстання 1863 г. беларускія і літоўскія губерні расійскімі ўрадавымі коламі разглядаліся як рэгіён, дзе адбывалася найбольш жорсткае супрацьстаянне польскаму ўплыву. Русіфікатарскі курс тут некалькі адрозніваўся ад этнічна польскіх зямель. Расійскія чыноўнікі, рэалізоўваючы ўрадавыя мерапрыемствы па ўмацаванні імперскіх пазіцый у Царстве Польскім, ніколі не ставілі задачу знішчэння польскай мовы і культуры. На тэрыторыі заходніх губерняў сітуацыя выглядала некалькі інакш. Урадавыя колы ў сваім змаганні супраць польскіх уплываў разлічвалі на падтрымку беларускага сялянства, але добра разумелі, што калі сельскі жыхар дасягаў ступені заможнасці вышэй сярэдняй, то часта ўспрымаў

мадэль паводзін польскай эліты. У першыя паслярэформенныя дзесяцігоддзі ўрад праводзіў палітыку стрымлівання самавольных перасяленняў сялянства, якая на тэрыторыі беларускіх губерняў дапаўнялася клопатам захавання «рускага элемента», ядром якога выступала праваслаўнае сялянства. Новы курс ва ўрадавай перасяленчай палітыцы быў аформлены 6 чэрвеня 1904 г., калі было прадэкларавана пашырэнне магчымасцей для перасяленняў.

Беларускі этнас, а пазней і беларускае грамадства фарміраваліся пераважна на сялянскай, вясковай аснове. Адсутнасць ці малалікасць эліты, перш за ўсё эканамічнай, усведамленне значнай часткай вышэйшага саслоўя сваёй прыналежнасці да польскай ці рускай культурна-палітычнай традыцыі, вельмі істотна сказалася на далейшым развіцці Беларусі, фарміраванні беларускай дзяржаўнасці. Фактычна палітычная культура, традыцыі беларускага народа ўзніклі на сялянскай аснове, без уліку багатай спадчыны палітычных традыцый мясцовай беларускай шляхты.

Палітыка русіфікацыі была накіравана на нацыянальна-культурную інтэграцыю з велікарускім цэнтрам, і яна ў поўнай меры праявілася ў дачыненні да беларусаў, украінцаў, літоўцаў і інш. Аднак у дачыненні да шэрагу народаў нярэдка палітыка падпарадкоўвалася задачам, звязаным з іх сегрэгацыяй і дыскрымінацыяй [7, с. 203]. У пэўнай ступені гэта датычылася яўрэяў і палякаў.

Сацыяльная дынаміка грамадства з'яўлялася ў значнай ступені сведчаннем ступені эфектыўнасці і выніковасці ўрадавай палітыкі на тэрыторыі Беларусі ў другой палове XIX — пачатку XX ст. Сацыяльная сістэма — гэта адзіны механізм, усе часткі якога непарыўна звязаны паміж сабой. Як толькі пад уздзеяннем таго ці іншага фактару змяняецца ці дэфармуецца адна яго частка, астатнія кампенсатарна трансфармуюцца ўслед за ёй. Сацыяльна-саслоўная структура грамадства, якую спрабавалі прыстасаваць на беларускіх землях расійскія ўлады, прыжылася тут у першай палове XIX ст. дастаткова павярхоўна. Асноўную перашкоду склала вернасць розных груп насельніцтва на ўзроўні менталітэта ранейшым традыцыям, звычаям грамадства часоў былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Сітуацыя пачала змяняцца ў другой палове XIX ст., пасля пераходу да сістэмнай русіфікацыі. Аднак ні ранейшая, ні новая структуры не змаглі паўнавартасна развівацца. У другой палове XIX ст. фактычна адбылася канчатковая ломка той сацыяльнай сістэмы грамадства ў Беларусі, якая сфарміравалася на старашляхецкіх традыцыях ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Сацыяльная трансфармацыя адбылася пад уплывам двух асноўных фактараў: урадавая палітыка, якая вызначалася ў гэты перыяд моцным русіфікатарскім і ўніфікацыйным напрамкам, і працэсы станаўлення буржуазнага грамадства. Пачатак XX ст. вызначыўся спробай канчатковага афармлення на тэрыторыі беларускіх губерняў вынікаў палітыкі папярэдніх дзесяцігоддзяў у выглядзе новай мадэрнізаванай і блізкай да расійскага цэнтра сацыяльнай сістэмы грамадства. Гэты працэс застаўся незавершаным, перш за ўсё, з-за нявырашаных старых і дынамічных новых нацыянальных пытанняў.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Верещагин, П. Д.* Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.) / П. Д. Верещагин. Минск : Изд-во Белор. гос. ун-та, 1978. 144 с.
2. Гістарыяграфія гісторыі Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.: праблемы, здабыткі, перспектывы / Н. В. Анофранка [і інш.]; навук. рэд. В. В. Яноўская. Мінск : Беларус. навука, 2006. 447 с.
3. *Довнар-Запольский, М. В.* Народное хозяйство Белоруссии. 1861—1914 гг. / М. В. Довнар-Запольский. Минск : Изд-во Госплана БССР, 1926. 240 с.
4. *Долбилов, М. Д.* Русский край, чужая вера: Этноконфессиональная политика империи в Литве и Белоруссии при Александре II / М. Д. Долбилов. М. : Новое литературное обозрение, 2010. 1000 с.
5. *Жытко, А. П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861—1914 гг. / А. П. Жытко. Мінск : БДПУ, 2003. 233 с.

6. *Иванова, Н. А.* Сословно-классовая структура России в конце XIX — начале XX века / Н. А. Иванова, В. П. Желтова. М. : Наука, 2004. 574 с.

7. *Каппелер, А.* Россия — многонациональная империя / А. Каппелер. М. : Традиция : Прогресс-Традиция, 2000. 344 с.

8. *Каспэ, С. И.* Империя и модернизация: Общая модель и российская специфика / С. И. Каспэ. М. : Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 2001. 256 с.

9. *Комзолова, А. А.* Политика самодержавия в Северо-Западном крае в эпоху Великих реформ / А. А. Комзолова. М.: Наука, 2005. 383 с.

10. *Миронов, Б. Н.* Социальная история России периода империи (XVIII — начало XX в.): генезис личности, демократической семьи, гражданского общества и правового государства: в 2 т. / Б. Н. Миронов. СПб. : Дмитрий Буланин, 1999. Т. 1. 549 с.

11. *Панютич, В. П.* Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861—1900 гг. / В. П. Панютич / науч. ред. П. Г. Козловский. Минск : Навука і тэхніка, 1990. 375 с.

12. *Полетаева, Н. И.* Купечество Беларуси: 60-е гг. XIX — начало XX в.: монография / Н. И. Полетаева. Минск: БГЭУ, 2004. 247 с.

13. *Самбук, С. М.* Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. / С. М. Самбук. Минск : Наука и техника, 1980. 224 с.

14. *Терешкович, П. В.* Этническая история Беларуси XIX — начала XX в.: в контексте Центрально-Восточной Европы / П. В. Терешкович. Минск : БГУ, 2004. 223 с.

15. *Токць, С.* Беларуская вёска ў эпоху зьменаў: другая палова XIX — першая траціна XX ст. / С. Токць. Менск : Тэхналогія, 2007. 308 с.

16. *Цьвікевіч, А.* «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. / А. Цьвікевіч. 2-е выд. Менск : Навука і тэхніка, 1993. 352 с.

17. *Шыбека, З. В.* Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзя) / З. В. Шыбека. Мінск : Эўрофорум, 1997. 292 с.

18. *Яноўская, В. В.* Хрысціянская царква ў Беларусі 1863—1914 гг. / В. В. Яноўская. Мінск : БДУ, 2002. 199 с.

## РЕЗЮМЕ

В статье представлена характеристика содержания унификации и русификации как основных направлений в реализации политики правительства Российской империи на территории Беларуси во второй половине XIX — начале XX в., а также представлена общая оценка степени их эффективности. Кроме того, обозначены параметры соотношения унификационных мероприятий и процессов социальной трансформации белорусского общества в условиях модернизации.

## SUMMARY

The article presents characteristics of unification and russification as major trends of Russian imperial government policy on the territory of Belarus in the late XIX — early XX centuries. The efficacy of these measures is evaluated and relations between the unification and social transformation of the Belarusian society under the impact of modernization are analyzed.

Статья поступила в редакцию 30 сентября 2010 г.